Цана нумэру 50 кап.

# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

ШТОДЗЕННАЯ ГАЗЭТА.

Рэдакцыя Вострa-Брамская, № 9 — адчынена што дня, апрача сьвята, 10—3 гадз.

АБВЕСТКІ: 1 радок перад тэкстам 4 рублі. 1 радок за тэкстам 2 рублі. 3 безработных за усю абвестку 2 рублі.

Адміністрацыя: Завальная № 7, «Белар. Кнігарня». ПАДПІСКА: на 1 месяц—10 руб., на 3 месяцы—25 руб.

Год I. Вільня, Аўторак 22 ліпня 1919 г. № 51.

## БЕЛАРУСКІЯ ВУЧЫЦЕЛЬСКІЯ КУРСЫ,

назначаныя ў Горадні на 22 ліпня,

**ПЕРАНОСЯЦЦА У ВІЛЬНЮ**

**і пачнуцца 25-га ліпня (іюля).**

Заявы прымаюць у канцэлярыі Беларускай Гімназіі, Вастрабрамская, 9, ад 11 да 1 гадз.

**БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ КАМІТЭТ**

паведамляе родных і знаёмых арэштаваных беларусаў аб арганізаваньні пры Камітэце (Вострабрамская, № 9) Камісіі дзеля падачы юрыдычнай помачы.

Камісія прыймае з 12—2 гадз. у дзень штодзенна, а ў панядзелкі і сьвяты з 1—2 г. дня.

# У гістарычны мамэнт.

Польскі кабінэт міністраў падаўся у адстаўку.

Усемагчымыя і сэнсацыйныя чуткі, што кружылі дагэтуль, знайшлі сваё апраўданьне: безгрунтоўны Кабінэт «краснабаёў» і майстроў славесных спраў хістаецца.

У салі Рады Міністроў грудой ляжаць чорныя партфэлі, абвітыя чырвонай стужкай з надпісам «роўныя з роўнымі, вольныя з вольнымі» і покорна ждуць сваей долі.

А кругом гэтай груды маўклівых партфэлёў разыгрываецца заўзятая барадзьба. У туманным кругу закулісных палітычных інтрыг м ігаюць імёны і ініцыялы: Падарэўскі, Дмоўскі, Пілсудзкі, Гальлер, Эндэкі, «П. П. С.»; левыя, правыя. Хто пераможа?

Калі пераможа польская чорная рэакцыя, польская эндэцыя, якая захапіла партфэлі, аткіне далёка ў старану чырвоную стужку з несаўсім дагэтуль шчырым надпісам: „роўныя з роўнымі, вольныя з вольнымі“ і „замест слоў прыступіць к дзелу“. У тым здарэньні, калі возьме верх эндэцыя, то гэта грaзіць сумнымі вынікамі для беларускага пытаньня, гэта грaзіць зацьміць чорнымі тучамі наш гарызонт, адраджэньня нашай бацькаўшчыны. Эндэцкі «пераход ад слоў на к дзелу» ня може радаваць сэрцы барцоў за вольную, селянскую Незалежную Беларусь.

Мы ўсё-ж такі думаем, што гэтую чорную мару пабора дэмократычная і селянская Польшча. Мы спадзяемся, што новы кабінэт міністроў будзе дэмократычны і пяройдзе ад слоў к дзелу не па эндэцкай дарозе, кліч „брацтва і свабоды“ можэ быць праведзен толькі тады, калі ўласць у Польшчы будзе ў руках праўдзівых народных прадстаўнікоў, а не ў руках ворагоў народу. Калі ў Польшчы будзе дэмократычны Урад, толькі тады мы можам спадзевацца на добрасуседзкія адносіны і толькі тады зможа селянскі беларускі народ ўступіць у перэгаворы з Польшчай аб сваей незалежнасьці і непадзельнасьці.

**Тройнат.**

## Коопэратыўная бязсэнсіца.

Мы перажываем пашырэньне і пры гэтым у вельмі інтэнсіўнае, гэтай формы грамадзкага гаспадарства, якая называецца коопэрацыяй. Жаданьне арганізаваць „патрабілаўку“ сустрачаем усюды і зараз-жа пачынаюцца клопаты, каб правясьці гэта ў жыцьцё. З першага пагляду рух гэты можа толькі вітаць, але пры большым азнаёмляньні аказываецца, што тутака ёсьць і значныя свае цёмныя стораны аказываецца, што ня кожнае утварэньне коопэратывы ці жаданьне зрабіць яго, можа быць пахвалена. Справа ў тым што ў меру таго як сець коапэратываў робіцца гусьцейшай і узрастае лік коапэратыўных урадаў, — павялічаецца і прыцягацельная сіла патураньня. Пахвальная сама па сабе яна аднак вымагае, вялікай дозы ўсялякіх паясьненёў кірунку руководцтва, што у пасьледаваценелікаў, не заўсёды маецца. І яны прыступаюць да працы з такімі пагдядамі, што на справе ад коапэратыўнай формы ў большасьці астаюцца адны абломкі. Іншыя памылкі і упушчэньня, залежачыя ад памылак арганізацыі у тэхнічным сэнсе, могуць быць пасьля, у часе прыезду інструктара, папраўляны, але ёсьць дэфэкты больш значныя, так сказаць карэнныя, зьвязаныя з паяўленьнем і істнаваньнем коопэратыўнага ураду ў цэлым. Мы тутака застановімся на двох важнейшых прыкладах. Наперад ўсяго аб матывах устройства «патрабілаўкі». Апошняя, разумеецца дужа разнавідны, але трэба адмеціць і падкрэсьліць, што выконаньне іх можа быць толькі пры істнаваньні вядомых варункаў, г. ё. калі знаходзіцца патрэбнае число сябраў ці асоб якіе хочуць быць імі, калі ўжо маюцца гатовымі патрэбныя грошы, калі ёсьць асобы для замяшчэньня распарадзіцельных местаў, калі па блізасьці няма другога коапэратыву ў гэтым раіоне і г. д. Коопэратыў гэтак ці інакш справіўшыся з гэтымі пачатковымі заданьнямі, далей сустрачаецца з новымі праблемамі, адна з іх гэта адкрыцьце аддзелаў. Гэта ня менш трудная справа чым адкрыцьце главнай крамы і канторы, і ў

гэтай справе мы можам адмеціць факты якія трэба назваць ня інакш як **коопэратыўнай бязсэнсіцай.** Запраўды што можа лічыцца патрэбным для адкрыцьця аддзелу коопэратывы.

Жаданьне прыблізіць краму для **сваіх** сябраў, якія жывуць у такім то раіоні. Але для гэтага патрэбна, каб такія сябры былі, каб яны зрабілі па гэтаму пытаньню пэўную заяву, і каб лік гэтых сяброў быў як можна вялікшы. А між тым ужо адызначаны выпадкі калі коопэратывы з лікам сябраў ня больш за 300—400, зьбіраюцца адчыняць пяты аддзел. Гэткія зьявішчы ня могуць быць паясьняны жаданьнем прыцягнуць новыя сілы, бо апошнія могуць і не зьявіцца, і тады аддзелы коопэратыву зробяцца звычайнымі, крамамі, з разлічаньнем на выпадкавага пакупца, пры гэтым яны ня гледзючы на шмат прывілегій будуць худнець ад недастачы грашэй і атсутнасьці патрэбнай таргавай кампэтэнцыі, бо гэта так сама каштуе ня мала.

Гэткім способам, як ня панадна само па сабе разпрастраненьне коопэратываў, але пачатак, а пасьля і дальнейшая іх дзеяльнасьць павінна ісьці з вырахаваньнем на аснаўны прынцып копэратыўнай самадзеяльнасьці, не адзін раз ужо памінаўшыся. Вялікі разгон і бязгрунтоўнасьць як пры пачатку так і пры дальшай дзеяльнасьці коопэратыву прывядзе да аднаго рэзультату, ня трудна сьцяміць да якога.

**В. Ос—ч.**

Адзін з нашых батальёнаў наткнуўся каля Чарткова на украінскі атрад, двайчы правышаючый наш, адкінуў яго цераз фронт сусядняй дзівізіі, дзе ён увесь папаў у палон.

У нас невялікія страты, сёньня мы забралі 1200 чал. у палон, у гэтым ліку 8 афіцэраў, 1 гармату, некалькі кулямётаў, некалькі сот вінтовак, 6 паравозаў, 84 вагоны і тэлефонны матэрыял.

## Весткі Літоускага Генеральнага Штабу.

*16 ліпня.*

**Рускі фронт.**

На паўночных вучастках дзеяльнасьць разведчыкаў.

У раіоні Бавэрна мы адкрылі камуністычную часьць.

На паўднёвым фронце пачаліся жывыя баі. Супраціўнік, падтрымліваючы агонь з цяжкай артылеры, пераходзіў некалькі разоў густымі калонамі ў атаку, але бяз пасьпеху. Усе атакі былі адбіты.

Мы атрымалі весткі, што пры апошніх атаках чырвона-армейцы мелі шмат забітых і раняных. Энэргічнымі контр-атакамі нашых войск супраціўнік быў змушаны адступіць.

У раіоне возера Вепусавак былі стычкі разведчыкаў.

# АПОШНІЯ НАВІНЫ.

## Весткі Польскага Генэральнага Штабу.

*17 ліпня.*

**Палескі фронт.**

Апрача частых стычак патрулёў болш ніякіх дзеяньнёў ня было.

**Літоўска-Беларускі фронт.**

Наступленьне бальшавікоў на Першаі адбіта. З абодвых старон вядзецца выдатная дзеяльнасьць разведчыкаў.

**Галіцыйска - Валынскі фронт.**

Мы занялі Збараж, Скалату і Залешчыкаў. 17 ліпня нараніцы быў заняты Гусяцін. Жыхары Залешчыкава сустрэлі нашых уланаў з энтузіазмам. Дзякуючы крэпкаму прасьследаваньню няпрыяцеля мы захапілі зусім не папсаваныя зялезнадар. лініі.

Пры пераходзе цераз Серет, у ея ніжнім бегу, няпрыяцель хацеў даць нам атпор, але ня гледзючы на падкрапленьне з аднэй брыгады січовых стральцоў, павінен быў адступіць.

## Дзьве душы.*)

Алечка была ў бацькі аблюбёнаю дачушкаю, аблюбёным дзіцёнкам, і з прыемнасьцю чула на сабе бацькаву любоў.

Алечка заўсёды бывала дужа рада, калі ён прыежджаў, і ня ведала, што рабіць з тае радасьці; чапалася яму на шыю, абляпляла яго бусямі, гладзіла яго сівую бараду і парослыя валаскамі рукі, туліліся да яго, чуючы, што ўва ўсім сьвеце толькі ён адзін разумеець яе, даруець ёй памылкі і абмашкі і любіць яе так, што дзеля гэтага толькі й жывець. Яна была зачараваная бацькавым розумам, яго цьвёрдасьцю ў адносінах да людзей, яго багацьцем. З маткаю-ж ня мела тых прыязналюбых зьвязкаў і любіла матку менш, чымся яго. А з гэтых прычын чакаць татульку было для яе быццам нейкай дадатковай і паўседнай, у запасе, прыемнасьцю, каторая ратавала ад вялікага смутку ў чарод нядобрых дзён і надавала асаблівай прынаднасьці, саладкага прыгажства яе шчасным дням.

Цяпер-жа, калі няня прыбегла і сказала, што прыехаў сам Мікола Мартынавіч, Алечка, замест радасьці, пачула нешта новае, дзіўное, зусім ня добрае. Было ёй ці-то прыкра, ці-то боязна. Чула, што будзе нешта дрэннае, благое. Быццам апала яе сэрца.

Яна стаяла ў дьзвярах пакою, дзе жыла няня, глядзела ўздоўж па карыдоры, дзе з канца, з цямноты выходзіла вялікая фігура бацькі, аб нечым разважала і ведала адно, толькі адно, што ёй боязна перад новым, невядомым...

— Што, Алюся, не пазнала таты?

З пяшчотаю, і негасьцю, і наплываньнем асабліва вялікай любасьці ў сэрцы пасьля даўгога разлучэньня сказаў Мікола Мартынавіч і далікатненька абшчапіў яе і пацалаваў яе.

— Татусю, пазна-а-ла! — адказала яна і прытулілася да бацькі, але тое нова́е не пакінула яе.

— Сьцюдзёна табе, Алюся?—спытаўся стары, заўважыў, што яна не такая, як заусёды, быццам мімаволі куксіцца.

І калі выйшла жонка, ён, повітаўшыся, перш-на-перш спытаўся, што гэта з Алюсяй, ці здарова яна?

Чаго-ж ёй хварэць?—спакойна і нанет трошку іронічна адмовіла матка; — здарова, толькі непаседлівая, нападалася за дзень, бо у хаце ня стыкаецца.

Аля чула, што сказала матка і падумала, як яна нялюба кажаць, і з прыкрасьцю чакала, што зараз яна пачне яшчэ хваліцца князем, што ён напэўна прыдзе ў сваты.

І нялюбасьць да ўсяго-чыста спавіла дзяўчыну і піхала на самыя неспадзяваныя ўчынкі,—толькі Аля ведала, што гэта пройдзе, што гэта — благая чарада жыцьця, і дзеля таго толькі адзержывала сябе.

Цяжкі настрой не пакінуў Алю і ўраньні на другі дзень. Яка сьніла Ігналіка, быццам яна з ім і з нейкімі людзьмі плавала ў чаўне па мору. Човен абярнуўся, і яна з Ігналікам абшчапілася, і абодвы заліваліся ў сьцюдзёнай, сьцюдзёнай, сольнай і мутна-сіняй вадзе.

З беленькага катэра, зьнеткуль, кінулі ім вяроўкі з гумавымі паясамі, яна схапілася, а Ігналік з маўклівай, пакутнай і даруючай за крыўды усьмішкаю адпіхнуўся і пачаў заліваецца адзін.

Яна ўстала, як звычайна, і сьнедала разам з усімі хоць і ня мела апэтыту, але у парк гуляць не пайшла і лягла з кніжкаю на качалку. І ня магла чытаць. Перш чула нейкую мляўкасьць ува ўсім целе і як слова хмель у галаве, а потым зразумела, што пачынае гарэць.

Калі прыйшоў князь, каб паказацца Міколе Мартынавічу і адным заходам пашчупаць грунт у справе сватаньня (бо маруда была яму ня з рукі і надакучыла яму). Аля ўжо ляжала, завінутая коўдраю, на пасьцелі, для яе сядзеў старэнькі вясёлееькі дзядок курортны доктар і воддаль—Мікола Мартынавіч

Князя ўвела і сказала аб ім сама гаспадыня якраз у той час, калі доктар гладзіў Алю па ручцы і ласкава супакаіваў яе, кажучы ёй і каб чуў бацька:

— Нічога, нічога, маё дзетка: маленькая нэрвовая хваробка... Трэба супакоіцца, выпіць мае мікстуркі хоць ад іх і не вялікая польза, і як рукою здыме. Найлепшая-ж рада й лекарства — спакой.

Мікола Мартынавіч быццам і цікавасьці ня меў прыгледзіцца да князя і бязуважна кіўнуў рукою на крэсла, каб той садзіўся.

Такое прыйманьне было нялюба князю, і ён адразу пачаў нейкую няпрыхільнасьць да міліёншчыка. Аля яшчэ пабольшала яе тым, што адвярнулася ад сьцяны, калі князь прыйшоў.

І пасьля візыту князь зразумеў, што абставіны спляліся так, што сватацца няма чаго патыкацца. Мець абы-якія справы з «лапацонам», як ён у думках аблаяў міліёншчыка, было ня лёгка. Хвароба-ж дрыжонай дачушкі, відаць, зусім у благі бок ськівала настрой і думкі Міколы

*) Гл. №№ 24—49.

21 ліпня англічане займуць Клайпеду (Мемель), а пасьля сюды прыдуць літоўскія войскі.

**З кангрэсу.**

ЛІОН, 18 ліпня. Дзеяльнасць грэцкай арміі ў Малай Азіі вызвала шмат непаразуменьняў між урадамі грэцкім і італьянскім. Высшая Рада жадае спыніць недаразуменьня і ў гэтай справе ўчора рабіў даклад старшыня міністраў Веніэлос. (П.А.Т.).

**З Англіі.**

«Daily New» ад 9. VII. 19. падае што ў Англіі праяўляецца узрост цэн на еміну і мануфактуру.

Дзеля абароны публікі ад спэкулянтоў захован на далей урадовы кантроль над гандлям ёмінными таварамі.

Не глядзячы на агромныя запасы воўны, адзежа дарагая, бо фірмы завалены заказамі на заграні́чные рынкі.

У таргова-промысловых англіцкіх сфэрах лічаць, што на паніжэньне цэн вельмі памагло-бы атккрыцьце граніц, напр. японскім таварам, якія, дагэтуль, не пазваляецца прывазіць у вялічкім чысле.

## Маленькі фельэтон.

### АЛАНАВАЛІ.

Раптам накінуліся.

Голад, безработіца.

Самы страшэнны з іх.

Голад.

І чаловек блудзіць паміж гэтымі асінавымі каламі, забіўшыміся ў яго жыцьцё.

Бо што ён можа зробіць:

Няма чаго есьці, бо людзі сядзяць без работы.

А ня можна рабіць, бо няма чаго есьці.

Ось ужо праўда, што мужык і жана—адна сатана.

К гэтаму яшчэ прыплутваюцца такія сякія варункі.

Які нябудзь гаспадарчык, ці панок хочэ дастаць сабе працаўніка і цікавіць:

А якой ён веры?

Вар'ят! Як ты купляеш сабе саган, дык няўжто ты й тутка хочэш растлумачыць:

А які лес рос на той горы, з якой накапалі гэнага зялеза, ці дуб, ці бяроза?

Табе ўсё адно, што тамака расло, ты глядзіш, каб добры толькі саган быў.

Таксама і тутака: ты купляеш сілу, машыну.

І толькі.

Ці можа і запраўды сьвет звар'яваў і людзі мусяць купляць:

За хунт хлеба і душу.

———

Шмат ёсьць і гэткіх гаспадарчыкаў, што хочуць у старцоў торбы красьці.

Бо як інакшэ казаць пра гэтакаэ:

Завуць галоднага чалавека на работу і даюць такую пэньсю, што ён ня можа прахарчавацца за гэныя грошы. Вядома, што чарнарабочы—як і машына, ці як печ, калі не напаліш дровамі, дык хлеба не спячэш, таксама і тутка, калі: не накорміш—ні паедзеш.

У гэным разе выходзіць быццам напрыклад гэтак:

Каб працаваць дык - прахарчуй заработак і астатню кашулю.

Добрыя рахункі!

———

Е' й гэто. Маюць людзі грошы, здароўе, як сабе дык і другім добрага жыцьця хочуць, ведаюць як дзела трэ' вясці, ды няхочуць ніякага дзела пачынаць.

?

Лянуюцца. Разгультаіліся, лянота коcьці разламала.

Калі гэтак, дык што зрабіць. Добра. Сланяйцеся, панове, па садох, па рэстаранах, сьпіце на пярынах, сядзіце на сваіх грашах, толькі будзьце так ласкавы і памятайце, што

З папераў таксама вяроўкі віюць.

**Лука.**

## Лісты у Рэдакцыю.

**АШМЯНЫ.**

Пры перасылцы газэт часта здараецца з Беларускай Думкай, што газэта валяецца па цэлыя тыдні у Ашмяне у упраўленьні Паліцыі, а посьля проста нішчыцца, бо, як гавораць міліцыянты „гэтакіх газэт ня барзда чытаюць“.

Апроч таго почта фактычна адносіцца да беларускіх газэт вельмі няпрыхільна.

**Тутэйшы.**

### Распараджэньне № 12.

Водле загада Генеральнага Камісара Усходніх Зямель даводзіцца да агульнага ведама, што з сёньняшняга дня усе налогі і зборы, лічыўшыяся да гэтай пары маркамі, павінны быць выплачываны толькі ў царскіх рублях. Выплата можа быць як у рублях так і ў марках водле абавязковага курсу.

Камісар Віленскага Вокруга,
**К. Недзялкоўскі.**

19 ліпня 1919.

### Распараджэньне № 13.

Па загаду Генеральнага Камісара Усходніх Зямель з 19 ліпня да адмены устанаўляецца курс валюты па якому павінна прыймацца плата і рабіцца выплаты касамі дзяржаўнага ураду і грамадцкіх урадаў.

100 руб. царскіх=200 руб. думскіх=110 маркам (польскім, нямецкім і остмаркам).

100 р. думск.=50 р. царск.=55 мар.

100 марак=90,90 царск.=181,80 дум.

Камісар Віленскага Вокруга,
**К. Недзялкоўскі.**

Вільня, 19 ліпня 1919 г.

## ЗАГАД
**Даводцтва места Вільні.**

Ад 20 ліпня г. г. вулічны рух, а таксама дзеяльнасьць тэатраў, рэстаранаў, кавярняў і г: д. працягіваецца да 23½ гадзін. (палова дванаццатай увечары).

**Тупальскі**
Палкоўнік і Даводца места.

**Оскерко**
Паруччык кавалерыі і Ад'ютант Даводцтва места



Рэдактар і выдавец Э. Падгайскі.

Друкарня «Віленскага Выдавецтва», Мала-Стэфанаўская, 23